Прачытай сам і перадай другому.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо.*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

№ 2 (4562)

12 студзеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ ЗМАГАЕЦЦА!




# Лакальныя маршы, пікеты, танцы на снезе…

У мінулую нядзелю з самай раніцы на незалежных сайтах з'явіліся фота- і відэакадры калон пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Мірныя пратэстныя акцыі, выкліканыя брутальнымі фальсіфікацыямі вынікаў галасавання на прэзідэнцкіх выбарах і карнымі аперацыямі сілавікоў, адбыліся ў розных кутках Беларусі. Але найбольш лакальных шэсцяў, пікетаў, флэшмобаў налічвалася ў Мінску: Малінаўка, Новая Баравая, Зялёны Луг, раён Камвольнага камбіната, Каменная Горка, Серабранка, Лебядзіны, Сеніца, Курасоўшчына, Уручча… Каля 300 прадстаўнікоў розных раёнаў сталіцы зладзілі запамінальны флэшмоб "Іерусалім" – танцавалі на снезе ў бел-чырвона-белых строях са сцягамі, стужкамі і парасонамі ў нацыянальна-гістарычных колерах. Найчасцей гучалі воклічы: "Верым! Можам! Пераможам!", "Жыве Беларусь!", "У год Быка без пацука!" і іншыя.

ПІКІРОЎКА

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:



– Калі можа адбыцца рэферэндум? Гэта мы аб'явім на Усебеларускім народным сходзе, але, думаю, на працягу года мы зможам распрацаваць праект новай Канстытуцыі. І думаю, што да канца наступнага года праект новай Канстытуцыі будзе гатовы. І тады на рэферэндуме людзі вызначаць, быць новай Канстытуцыі або не быць.

*(Сказана 30 снежня 2020 года ў інтэрв'ю праграме "Дзеючыя асобы з Наілёй Аскер-задэ" на тэлеканале "Расія-1".)*

## Святлана Ціханоўская:



– У Беларусі можа быць прынята толькі адна новая Канстытуцыя – народная. Пісаць і абмяркоўваць яе будзе народ. А чалавек, які апусціўся да тэрору ў дачыненні да беларусаў, ніякага дачынення да галоўнага закона краіны не мае. Ён будзе і далей прасоўваць свой маніпулятыўны праект, каб у чарговы раз падмануць нас і выйграць час для сябе…

У 2020-м мы заявілі, што не лічым яго прэзідэнтам. Значыць, мы не прымем ніякіх яго фэйкаў замест Канстытуцыі, ніякіх тайных сходаў і інсцэніраваных рэферэндумаў, і ўжо сапраўды – ніякіх новых законаў, пакуль ён утрымлівае пост з дапамогай зброі. Новыя выбары і народны рэферэндум па новай Канстытуцыі павінны прайсці да канца 2021 года і без Лукашэнкі.

СКАЗАНО!

Патриарх Московский и всея Руси Кирилл – белорусским властям:

## «Нельзя откладывать в долгий ящик то, что вызывает несогласие в обществе»

– Мы свидетели того, что произошло на Украине, – сейчас слово «майдан» стало нарицательным. Совершенно очевидно, что опыт Украины должен научить всех нас, что преобразования в обществе должны проходить таким образом, чтобы они не сопровождались нарастанием внутренней напряженности и особенно радикализацией отношений между людьми, – *сказал патриарх Московский и всея Руси Кирилл в рождественском интервью телеканалу «Россия-1»*. – Всегда после революции должен быть долгий период восстановления. Поэтому нужно стремиться к лучшему, не разрушая того, что есть, а развивая в лучшую сторону, модернизируя в хорошем смысле этого слова, улучшая и общественные отношения, и вообще жизнь страны.

Поэтому наш призыв к Беларуси – все вопросы нужно решать мирно. Но если вопросы существуют, их нужно решать, и это уже обращение и к белорусским властям. Нельзя откладывать в долгий ящик то, что вызывает несогласие и напряжение в обществе. Нужны инструменты разумного, делового обсуждения проблем с выходом на конкретные решения.

***

В заключение патриарх Московский и всея Руси Кирилл пожелал, чтобы прекратились попытки силовыми способами решать эти вопросы в Беларуси и стал развиваться диалог между властью и народом, властью и обществом с участием всех сил, включая представителей религиозных общин, направленный на стабилизацию положения и на всестороннее развитие «братской Беларуси».

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Нам неабходна Ваша дапамога

Шаноўныя нашы чытачы і валанцёры!

На жаль, блакада «Народнай Волі» дасягнула неверагодных маштабаў. Як Вы ведаеце, яшчэ ў жніўні мінулага года ўлады забаранілі тыражаванне газеты ў выдавецтве «Беларускі Дом друку», а таксама распаўсюджванне яе праз шапікі і паштовыя аддзяленні. Ужо другі месяц мы не можам друкавацца нават у Маскве: тамтэйшыя паліграфісты скасавалі з намі дамову пад ціскам крамлёўскіх імперцаў.

І ўсё ж мы, народавольцы, не губляем спадзяванняў на тое, што блакада ў хуткім часе будзе знята і Вы, шаноўныя чытачы, зможаце мець «Народную Волю» не толькі ў электронным варыянце, але і ў ранейшым – папяровым. Аднак зараз нам крайне неабходна ваша дапамога. Нагадваем: пералічыць пэўныя сродкі можна некалькімі спосабамі (рэквізіты падаём у рускай транскрыпцыі).

**1. Через ЕРИП:**
**СМИ, Н (просто буква), Народная воля, Добровольные взносы.**

**2.Через БАНК:**
**ИЧУП «Народная Воля». 220030**
**г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**Код PJCBBY2X, ЦБУ 113**
**«Приорбанк» ОАО, г.Минск**
**УНП 100961759, ОКПО 37381505**

Падпісацца на газету «Народная Воля» можна на сайце **belpressa.by**. Пры афармленні падпіскі на друкаванае выданне будзем дасылаць Вам у канверце раздрукаваны на прынтары варыянт газеты. На сайце таксама можна падпісацца на PDF-версію.

***Рэдакцыя газеты «Народная Воля».***

ПАСТСКРЫПТУМ

## Ёсць нюанс...

Падчас выступлення старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Івана Церцеля некалькі тыдняў таму перад рабочымі гродзенскага "Азота" прагучалі апладысменты начальніку аднаго з цэхаў прадпрыемства Віктару Пятрову. Паводле шматлікіх каментарыяў у інтэрнэце смелая пазіцыя начальніка цэха, які пярэчыў самому начальніку КДБ, выклікала цікавасць да яго асобы, прычым не толькі ў журналістаў.

Пасля таго як аўдыёзапіс сустрэчы з'явіўся ў СМІ, "Народная Воля" звярнулася да Віктара Пятрова з просьбай даць газеце інтэрв'ю. Рэдакцыя мела намер распавесці пра погляды начальніка цэха на сітуацыю, якая склалася на прадпрыемстве, пра тое, як ён ставіцца да падзей, якія адбываюцца ў краіне, і проста пра чалавека, які жыве і працуе ў сучасным беларускім грамадстве. Спачатку спадар Пятроў адказаў, што падумае над гэтым, але на наступны дзень адмовіўся размаўляць, коратка патлумачыўшы: "Ёсць нюанс..."

Каментарый? Здаецца, і так усё зразумела – вось такі ён, Віктар Пятроў, як кажуць, барацьбіт за народнае шчасце. Адкрыта сказаў два словы – і ў кусты.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Ці маюць намер узяць удзел у так званым Усебеларускім народным сходзе партыі, рухі і грамадскія арганізацыі?

## Ігар БАРЫСАЎ:
### «Гэта міжсабойчык улады»



*Запрашэнне ўзяць удзел у сходзе старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) атрымаў ад намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Кунцэвіча. У адказ ён накіраваў свае прапановы наконт парадку дня форуму.*

– Але, скажыце, ці маем мы, прадстаўнікі дэмакратычных партый, маральнае права ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве, калі за кратамі сядзяць палітвязні, працягваецца гвалт, не працуе закон, не ідуць расследаванні фактаў забойстваў? – *разважае Ігар Барысаў.* – Васкрасенскі, які імітуе грамадскі дыялог, кажа, што будзе выносіць пытанне амністыі на агульнае абмеркаванне сходу, але я лічу, што гэта ніякі не ўсенародны форум, а міжсабойчык улады.

Каб пачаць дыялог з апазіцыяй, трэба вызначыць суб'екты для перамоў, вызваліць усіх палітзняволеных і пачаць размаўляць пра транзіт улады – правядзенне выбараў усіх ўзроўняў.

Лічу, што першыя выбары павінны адбыцца менавіта парламенцкія – у якасці кампрамісу, каб парламент ізноў стаў суб'ектам міжнароднай палітыкі, але выбары толькі пад наглядам АБСЕ.

Далей – адстаўка Лукашэнкі, змены ў Канстытуцыю, і пасля – выбары прэзідэнцкія (калі народ палічыць, што краіне гэтая пасада патрэбна. Асабіста я супраць яе, як і наша партыя).

## Уладзімір БЕЛАЗОР:
### «Не бачу, з кім весці перамовы…»



*Старшыня Рэспубліканскай партыі гаворыць, што яго на сход ніхто не запрашаў.*

– У нас ёсць пэўныя прапановы, але, шчыра кажучы, неяк так дзіўна ўсё арганізавана, што я нават не ведаю, куды іх накіроўваць, з кім весці перамовы, які парадак дня будзе на тым сходзе…

## Таццяна КАРАТКЕВІЧ:
### «Хацелася б атрымаць справаздачу, колькі народных грошай будзе на гэта змарнавана»



*Кампанія "Тавары праўду" прапанавала прэм'ер-міністру Раману Галоўчанку ўключыць у аргкамітэт Усебеларускага сходу прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх арганізацый, а таксама зацвердзіць празрыстую працэдуру вылучэння дэлегатаў ад народа.*

– Але мы адразу зразумелі, што гэта карпаратыўнае мерапрыемства, дзе будуць усе свае, што месцы размеркаваны і ўсё жорстка зарэгламентавана, ніякай альтэрнатывы ніхто ўвогуле не пачуе, – *выказвае свае думкі сустаршыня кампаніі "Тавары праўду" Таццяна Караткевіч.* – У грамадстве шмат людзей, якія хочуць агучыць сваю пазіцыю, і многія сапраўды жадаюць знайсці кампраміс, але дзверы зачынены. Грамадства стаіць перад гэтымі зачыненымі дзвярыма, хоць яно падрыхтавана да перамоў.

Як бачым, рыхтуецца чыста карпаратыўнае мерапрыемства, якое ладзіцца за народныя грошы. Хацелася б, дарэчы, атрымаць справаздачу, колькі грошай на гэта будзе змарнавана. І які ў гэтым сэнс? Тое, што было агучана ўладай, – наданне сходу статусу заканадаўчай ініцыятывы, – гэта ўсё пераварочвае з ног на галаву, канчаткова разбурае палітычную сістэму краіны.

Атрымліваецца, Лукашэнка, яго ўлада баяцца грамадства, баяцца адкрытай размовы пра будучае і закрываюцца ад людзей, дзеляць іх на "сваіх" і "чужых".

Калі мы атрымаем запрашэнне, безумоўна, разгледзім яго, абмяркуем і прымем рашэнне, удзельнічаць альбо не. З іншага боку, сёння нам ніштто не перашкаджае мець зносіны з людзьмі.

## Юрась ГУБАРЭВІЧ:
### «Гэта сходка апошніх прыхільнікаў сыходзячага рэжыму»



*Старшыня руху "За Свабоду" дэлегатам сходу быць не плануе і ніякіх запрашэнняў у Палац Рэспублікі не атрымліваў.*

– Бо не ўваходжу ў кола асоб, якія, як сведчаць рэальныя вынікі галасавання, падтрымліваюць незаконны захоп улады ў жніўні 2020 года, – *гаворыць Юрый Губарэвіч.* – Лічу, што вынікі названага мерапрыемства не будуць адлюстроўваць сапраўдную волю беларускага народа. Гэту падзею хучэй можна назваць сходкай апошніх прыхільнікаў сыходзячага рэжыму. Цікава нават будзе паназіраць, ці знойдзецца такіх дастатковая колькасць, каб запоўніць залу.

## Васіль ЗАДНЯПРАНЫ:
### «Мы абралі дэлегатаў…»



*Старшыня Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці чакае, якое рашэнне прымуць мясцовыя ўлады.*

– Мы вылучылі дэлегатаў, але будуць яны зацверджаны ці не – я не ведаю, – *распавядае Задняпраны.* – Мы праводзілі сходы, падавалі пратаколы ў аблвыканкамы, нам сказалі, што іх разгледзяць, але заўважылі, што вылучаць дэлегатаў могуць арганізацыі, якія налічваюць 100 тысяч і больш чалавек. А ў нас столькі няма. Таму пытанне пакідаецца на разгляд мясцовых улад.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

Супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Народная Воля» выказваюць шчырыя спачуванні і шкадаванні вядучаму бухгалтару **Людміле Пятроўне УЛОГА** з прычыны смерці яе любай матулі **Алены Макараўны МАНЬКО**.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 СТУДЗЕНЯ 2021 г.

ПАЛІТКУХНЯ

# Ці маюць намер узяць удзел у так званым Усебеларускім народным сходзе партыі, рухі і грамадскія арганізацыі?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

## Дзмітрый КУЧУК: «Палітычныя партыі павінны запрасіць»



*Старшыня Беларускай партыі "Зялёныя" спасылаецца на дакумент са спісам магчымых удзельнікаў Усебеларускага сходу, які шырока разышоўся па інтэрнэце.*

– Калі верыць гэтым паперам, то палітычныя партыі павінны атрымаць запрашэнне для ўдзелу ў сходзе, – *гаворыць Кучук*. – Але ж ці будзе так – цяжка сказаць.

Хутчэй за ўсё, мы не возьмем удзелу ў гэтым мерапрыемстве. Можна, канешне, туды пайсці, зладзіць нейкі перформанс, зламаць усе сцэнарыі ўлады, але ж невядома нават, якія пытанні там будуць абмяркоўвацца. Ну і не вельмі зразумелы статус гэтага сходу. А легітымізаваць яго сваёй прысутнасцю – мы не лічым гэта канструктыўным.

## Мікалай КАЗЛОЎ: «Ганьба, а не сход!»



*Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі праігнараваў ліст ад намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. І дэлегатаў ад партыі на сходзе не будзе.*

– Нават не разумею, чаму вы задаяце мне такое пытанне пра ўдзел у сходзе… Гэта выключана! – *вельмі катэгарычна адказаў Казлоў*. – І калі раптам мне прышлюць запрашэнне, то я яго праігнарую. Была паперка падаць свае прапановы і ініцыятывы на Усебеларускі сход, але я яе проста праігнараваў. Няма цікавасці да таго, як улада збіраецца захаваць статус-кво і ў чарговы раз зрабіць дурнямі беларусаў. Гэта ганьба, а не сход!

## Сяргей КАЛЯКІН: «Лепш аб'явіць спадчынную манархію…»



*Старшыня Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" не разумее, чаму дагэтуль не вядома, якія канкрэтныя пытанні будуць абмеркаваны на сходзе.*

– З прэзідэнцкага ўказа адразу вынікала, што ніхто ніякіх незалежных дэлегатаў на гэты сход абіраць не будзе, – *гаворыць Сяргей Калякін*. – Усіх абяруць самі на сесіях Саветаў дэпутатаў у гарадах і раёнах. Фактычна дэлегаты будуць прызначаны. Але будзе спроба прадставіць гэта ўсё як інструмент прамой дэмакратыі. Хаця дэмакратыяй тут і блізка не пахне!

Гучаць думкі, што гэты сход павінен абірацца ўсенародна, як абіраецца парламент, але тады не патрэбны Нацыянальны сход, бо Усебеларускі сход возьме на сябе функцыі пастаянна дзеючых дэпутатаў – за выключэннем таго, што грошай не будуць атрымліваць. А калі ёсць парламент, а над ім яшчэ нейкі кантрольны орган – то гэта, прабачце, трэба да псіхіятра звяртацца, а не да палітолага.

Прыхільнікі ўлады маюць права нешта абмяркоўваць, уносіць нейкія прапановы. Але яны падчас Усебеларускага сходу не могуць змяніць Канстытуцыю, змяніць той ці іншы закон. Таму што гэта шырокі дарадчы орган.

Дарэчы, я дагэтуль не чуў, каб ішло ўсеагульнае абмеркаванне асноўных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на наступнае пяцігоддзе. Нават калі гэта будуць абмяркоўваць на сходзе, то людзі павінны загадзя азнаёміцца з дакументамі. Гэта ж не пра колер абутку пабалбатаць! Таму, на мой погляд, гэта прафанацыя, а не сход.

Да нас звярнуўся аргкамітэт па правядзенні УНС, папрасілі накіраваць свае прапановы. Мы далі ім дакумент на дзевяці старонках, таму што мы хочам, каб на наш адрас потым не было папрокаў: маўляў, мы запрашалі да дыскусіі, а яны нічога не зрабілі, у іх няма прапаноў. Такога нельга дапусціць, гэта пастка. Мы канкрэтна напісалі, што трэба зрабіць і з пункту гледжання рэфармавання Канстытуцыі, і з пункту гледжання рэфармавання дзяржаўнага кіравання. Напісалі, што судовая сістэма не павінна залежаць ад іншых органаў улады, трэба навесці парадак у прававой сферы. І па эканоміцы сфармулявалі прапановы – спадзяюся, іх хаця б прачытаюць…

## Сяргей ЧЭРАЧЭНЬ: «Гэта фікцыя…»



*Старшыня партыі "Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада" лічыць ніжэй гонару дыялог па перапісцы.*

– Мы адразу заявілі, што не прызнаем Усебеларускі народны сход, бо гэта пэўная імітацыйная шырма, а ўдзельнічаць у фікцыі не хочацца, – *тлумачыць сваю пазіцыю Сярней Чэрачэнь*. – Нам, як і прадстаўнікам іншых партый, прапанавалі прадаставіць свае ініцыятывы на Усебеларускі сход, але мы нават адказваць не сталі. Бо цудоўна разумеем, што дыялог па пошце – гэта не дыялог. У дадзенай сітуацыі я не бачу, каб дзеючая ўлада, Адміністрацыя прэзідэнта ці выканаўчыя органы былі сапраўды адкрыты да рэальнага дыялогу з грамадствам на вышэйшым узроўні.

**Марына КОКТЫШ.**

БЕЗ КУПЮР

# Олег ГАЙДУКЕВИЧ: «Мы будем спорить, но мы белорусы, и нам жить в этой стране…»

*«Народная Воля» решила взять интервью у депутата Палаты представителей и председателя Либерально-демократической партии Беларуси Олега Гайдукевича неслучайно. Его недавнее выступление по белорусскому телевидению вызвало немало вопросов. Некоторые из них мы и адресовали активному политику.*

**– Накануне Нового года в эфире телеканала «Беларусь 1» вы сказали, что в стране была попытка государственного переворота, и она провалилась. А можно с вами не согласиться и заявить, что в Беларуси все же произошел государственный переворот…**

– Что вы имеете в виду?

**– Говоря о государственном перевороте, я имею в виду то, что власть – от вертикали низшего уровня до самого высокого, при содействии спецслужб и оказании массированного давления на членов избирательных комиссий – грубейшим образом сфальсифицировала результаты голосования на президентских выборах. Это и является самым настоящим переворотом, налицо узурпация власти. Неслучайно ни одна европейская страна, а также США, Канада, ряд других государств не признают Лукашенко легитимным президентом…**

– Давайте говорить правду: судьба страны на улице решаться не должна. Не бывает хорошей улицы: ни одна страна постсоветского пространства, прошедшая улицу, не сдвинулась ни на метр вперед, не стала демократичнее, свободнее, люди в этих странах лучше жить не стали, а только хуже. Не бывает мирных улиц – это всегда кровь и насилие. Если в стране власть меняется через улицу, она всегда будет ходить по кругу, если можно одним, через год это сделают другие.




При этом я всегда говорил и буду говорить, что не бывает страны с одним мнением, и я всегда повторял и буду повторять, что всех людей с альтернативным мнением мы должны включить в легальный политический процесс, для это этого необходимо внести изменения в избирательное законодательство, перейти на проведение выборов по пропорционально-мажоритарной системе.

Неужели мы не помним, как некоторые политики до выборов говорили о том, что выборы их не интересуют и судьбу страны будем решать на улице. Это низко и подло звать людей на улицы, а самому сидеть в теплой заграничной гостинице. Самые плохие выборы лучше самой хорошей улицы – я всегда этого говорил.

Что касается признания или непризнания, то всё это геополитика, ни одну страну не интересуют ни наши выборы, ни забота о демократии, ни свобода в Беларуси, это сказки. Все думают лишь о себе, зачем иллюзии? Не переживает ни Польша, ни Литва, ни любая другая страна о том, как прошли здесь выборы, они думают лишь о собственных геополитических интересах. И международные отношения выстраиваются исключительно из своих интересов. Беларусь критикуют за строительство БелАЭС, а польская сторона заявила, что построит свою, но Польшу за это не критикуют. И так во всем.

**– Если вы считаете, что победила не Тихановская, а более 80 процентов голосов набрал Лукашенко, то скажите мне, пожалуйста, почему в Минске да и практически во всех других городах после подсчета голосов на дверях подавляющего большинства избирательных участков не были вывешены итоговые протоколы? Ведь если следовать букве закона, то одно это нарушение является основанием для того, чтобы выборы были признаны недействительными, а значит, необходимо срочно назначать новые и проводить их с соблюдением демократических процедур…**

– Я всегда был сторонником изменений в избирательное законодательство.

Что касается прошедшей кампании, то я убежден, что если бы после выборов в 2015 году власть прислушалась к ЛДП, а мы выступали всегда за проведение выборов по партийным спискам, то не было бы таких сложных выборов в 2020 году. Надо развивать свое политическое поле самостоятельно.

По поводу Тихановской не соглашусь с вами – она не выиграла выборы, и сегодня это обычный экс-кандидат в президенты, поэтому странно и смешно, что она, а тем более какие-то бывшие чиновники, какие-то координационные советы и национальные комитеты присваивают себе право говорить от имени народа.

Это не имеет никаких перспектив, и в стране будут изменения, но те политики, кто сидит в Литве, Польше, получая заработную плату в 1200 евро, (а если тебе платит какая-то страна, то ты будешь отстаивать ее интересы, а не интересы Беларуси), – никто из них к власти не придет, народу это не нужно. Не будет их у власти, и не будет решаться судьба страны за пределами Беларуси. Но я согласен с тем, что перемены нужны, и реформы нужны, и все это я буду отстаивать.

**– Согласитесь, сотни тысяч людей вышли на улицы не для того, чтобы устроить государственный переворот, насильственно, как вы говорите, свергнуть власть, а для того, чтобы восстановить справедливость, вернуть избирателям украденные голоса, отстоять демократию, потребовать законного наказания тех, кто пошел на уголовное преступление, организовав, считай, в масштабе всей страны подлог при подсчете голосов…**

– Я никогда никого не обобщал, люди, которые вышли, – все очень разные, разных политических взглядов, и никто не имеет права говорить от их имени. Мы все белорусы. Надо уметь слушать друг друга и слышать. Всех людей, которые хотят перемен, надо включить в легальный политический процесс. Но если призываешь жечь покрышки, перекрывать улицы, организовывать забастовки, хочешь санкций для своей страны, то ты не борешься за перемены, а хочешь разрушить собственное государство. Если ты хочешь остановить предприятие – это нищета и рост преступности. Покажите мне хоть одну нищую демократичную страну, каких перемен таким способом можно добиться? Ничего на улице решить нельзя.

**– В телеинтервью вы сказали, что внешнее влияние на Беларусь не просто не прошло, а будет усиливаться. Разумные люди понимают, что никто нам ни с Запада, ни с Востока не угрожает. Образ некоего фантомного врага искусственно раскручивает Лукашенко при поддержке таких, как вы, господин Гайдукевич, с одной целью – чтобы отвлечь внимание общественности от беспрецедентной фальсификации результатов выборов и от того, что их нужно провести по-новому, а также от того, что стране нужна новая Конституция с другими полномочиями президента…**

– Разумные люди понимают еще одну вещь: геополитика определяет внешнюю политику, и все это мы видели на примере других стран. Видели в Украине, Киргизии, на Ближнем Востоке. О чем вы? Международные институты превратились в инструмент геополитики. Мы должны жестко отстаивать свои национальные интересы, для этого после этих выборов для меня очевидно, что надо принять закон об иностранных агентах, сделать так, чтобы политическая деятельность никоим образом не могла поддерживаться извне. Забыли, как наши политики получают гранты и финансовую помощь из-за рубежа годами, отстаивая интересы исключительно тех стран, которые эту помощь дают? Да не надо нигде искать врагов, свое государство мы можем разрушить только сами, и это в действительности так. Надо заниматься экономикой, улучшать жизнь людей, развивая свое государство.

Германия думает о немцах, Польша – о поляках, а о Беларуси – только белорусы. И еще: многие внешнеполитические действия последних лет направлены на борьбу Запада с Россией и попытки втянуть в это нашу страну, как втянули туда Украину, а сегодня забыли о ней, как втянули туда Прибалтику и также о ней забыли.

**– *«Пришло время собирать камни»*, – заметили вы, выступая по телевидению. А может, вам как депутату Палаты представителей, лидеру партии проявить инициативу и развернуть в парламенте кампанию за скорейшее назначение даты новых, по-настоящему демократических, президентских выборов? Ведь самую высокую должность в стране должен занимать не узурпатор, а законно избранный президент…**

– Выборы – это возможность влиять на то, какой будет наша Беларусь. Я – политик, лидер Либерально-демократической партии, более того, для меня страна важнее, чем мои политические амбиции, но при этом ранее я говорил, что после выборов, после 9 августа, начнется борьба за будущее страны, и я приму в ней самое активное участие.

Я сделаю всё, чтобы Беларусь развивалась эволюционно, без потрясений. Надо проводить следующие президентские выборы тогда, когда мы будем уверены, что, кто бы ни стал Президентом Республики Беларусь, он не сможет сделать так, чтобы наша страна начинала сначала, не сможет поменять геополитических курс, не сможет разрушить все, что мы создали. Хватит ходить по кругу. Для этого, я убежден, мы должны изменить Конституцию страны, перераспределить полномочия.

Следующим шагом должны быть изменения в избирательном законодательстве, переход на выборы по пропорционально-мажоритарной системе, мы должны развивать собственное политическое поле. И самое главное – будущее нашей страны будем решать только мы, белорусы, а не те, кто получает зарубежные гранты, кто сидит в уютной польской гостинице, подставляя людей под дубинки, а сам ждет, что он потом приедет и будет чем-то управлять. Этого не будет! И как лидер Либерально-демократической партии я сделаю всё возможное для консолидации людей, понимая, что все мы разные, мы будем спорить, но мы белорусы, и нам жить в этой стране. Альтернативы этому нет.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ОТ РЕДАКЦИИ

*Олег Гайдукевич дал интервью «Народной Воле» еще накануне Рождества и выходных. Чтобы не терять времени и следуя принципу плюрализма, мы решили ознакомить с его высказываниями известного экономиста-промышленника и бывшего парламентария **Василия Шлындикова** еще до появления интервью в печати. А поэтому эти два материала оказались рядом в сегодняшнем номере газеты.*

НЕ В БРОВЬ, А В ГЛАЗ

# Не надо заниматься демагогией, господин Гайдукевич!



Олег Гайдукевич, по моему убеждению, талантливый демагог и, без сомнения, занимает вторую позицию в стране по этому качеству среди всех белорусских политиков.

Он, заметьте, умеет ярко перекрашивать черное в белое и наоборот, уходя от ответов на главные, принципиальные вопросы.

Вот он говорит правильные слова об изменении избирательного законодательства, о необходимости проведения выборов по партийным спискам, о том, что мы все белорусы и нам надо уметь слушать друг друга и слышать, что нам надо заниматься экономикой и улучшать жизнь людей. И ни слова о том, а как так получилось, что страна в долгах как в шелках! И уже 10 лет не растет экономика. Тот, которого так рьяно защищает Гайдукевич, давным-давно обещал среднюю зарплату в 1000 долларов, а где она? Подавляющее большинство предприятий убыточны, не сводят концы с концами, влачат жалкое существование за счет госдотаций, считай, за счет денег налогоплательщиков. И сколько это может длиться? До полного коллапса?

Господин Гайдукевич убеждает нас, что надо проводить следующие президентские выборы тогда, когда «мы» будем уверены, что следующий президент не сможет разрушить всё, что мы создали. Вопрос только в том, кто эти «мы»? И почему эти «мы» (а не народ на честных и свободных выборах), должны определять, кто должен стать президентом? Белорусы сказали свое веское слово 9 августа, но что последовало? Страшные репрессии, издевательство над законом. Цивилизованный мир содрогается от преступлений, совершаемых по указке властей. Сколько же может литься кровь на нашей многострадальной земле?

В интервью «Народной Воле» О.Гайдукевич говорит об изменении Конституции и распределении полномочий – не говорит только, когда все это будет. Если этот вопрос будет решаться не на общенациональном референдуме, а, как кое-кто считает, на так называемом Всебелорусском народном собрании или каким-то другим образом, то это окончательно загонит страну в тупик. Те же 2700 человек, которые соберутся в зале Дворца Независимости, и близко не отражают чаяний всего народа. Посмотрите на списки тех, кого уже назначили делегатами, – сплошные чиновники и начальники разных уровней. Даже на съезды КПСС когда-то избирали немало заслуженных простых людей. А теперь их и близко не подпускают к решению государственных вопросов. Им ничего не остается, как выходить на улицы и в протестных акциях отстаивать справедливость, общенародные интересы. Голос их можно услышать только на массовых уличных акциях.

Гайдукевич клеймит позором тех политиков, которые, мол, из-за рубежа пытаются противостоять незаконному захвату власти и удержанию ее силовым путем. Забывая сказать, кто вынудил бежать из страны Латушко, Цепкало и многих других. Кто выбросил из страны Тихановскую, кто упрятал в тюрьму Бабарико, Колесникову и многих-многих других. Вообще, где это видано, чтобы журналистов бросали за решетку только из-за профессионального исполнения своих прямых обязанностей? Почти два месяца находится в неволе Екатерина Борисевич. За что? За то, что не позволила властям оболгать Романа Бондаренко, помогла опровергнуть утверждение, что, когда его задерживали известные лица, он якобы был в состоянии алкогольного опьянения. Как нельзя утаить шила в мешке, так благодаря таким честным журналистам, как Катя Борисевич, нельзя спрятать грязные дела властей от глаз народа.

Гайдукевич повторяет измышления пропагандистов «Красного дома» и БТ о том, что нас окружают враги, которые только и мечтают, как нам навредить. Но ни слова не сказал господин Гайдукевич о репрессиях, арестах более 30 тысяч человек, об истязаниях людей, покалеченных и убитых только за то, что они, как и миллионы других, думают иначе, чем Гайдукевич и ему подобные.

Но он, Гайдукевич, призывает слушать других. Других – это каких? Тех, кто с дубинками? А почему бы не услышать голос тех, кто не смирился с фальсификацией результатов голосования на президентских выборах и вот уже шестой месяц отстаивает справедливость в протестных акциях? Узурпация власти не может длиться долго, она грозит обернуться большой катастрофой для страны.

Я согласен с Олегом Гайдукевичем, что изменения через улицу – не самый хороший вариант. Но власти при поддержке таких, как Гайдукевич, и ведут страну к этому сценарию. Вместо того чтобы провести выборы президента под контролем общества и международных институтов, таких, как, например, ОБСЕ, прилагаются мыслимые и немыслимые усилия для удержания власти. Но сколько веревочке ни виться – конец будет.

**Василий ШЛЫНДИКОВ,
экс-президент
ОАО «Амкодор», депутат
Верховного Совета РБ
13-го созыва.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

## Ян ГРЫБ:

# «У Нюрнбергу адказ «я выконваў загад» нікога са злачынцаў не выратаваў»

*На пачатку новага года ў Першамайскім раённым судзе Мінска быў асуджаны 84-гадовы **Ян ГРЫБ** – знакавая асоба сталічных вулічных шэсцяў. Яго ведаюць у твар не толькі тысячы пратэстоўцаў, але і сілавікі, сярод якіх неўтаймоўны пенсіянер праводзіць выхаваўчую працу. І часам – даволі паспяхова… Як яму гэта ўдаецца, Ян Грыб расказаў у рэдакцыі "Народнай Волі".*

**– Спадар Ян, вельмі своеасаблiва "павіншавала" вас дзяржава з Калядамі – вялізным штрафам. Судзілі і штрафавалі вас не ўпершыню, за што гэтым разам?**

– За акцыю пенсіянераў, што адбылася 4 студзеня. У гэты дзень мы, чалавек 300 бабулек і дзядулек, сабраліся на станцыі метро "Усход". Сталі ў ланцуг уздоўж праспекта Незалежнасці з бел-чырвона-белымі сцягамі, скандзіравалі "Жыве Беларусь!", "Лукашэнку ў аўтазак!", "Верым, можам, пераможам!". Пастаялі, праўда, нядоўга. Хвілін праз 15 пад'ехалі два бусікі, нас пачалі здымаць на відэа. І я ў кадр трапіў – са сцягам, маска на барадзе, каб не перашкаджала крычаць… Назаўтра мяне каля пад'езда перастрэлі двое міліцыянтаў. Культурна так: "Гриб Иван Иванович? Здравствуйте! Наш начальник хочет с вами переговорить". Я патлумачыў, што вывеў свайго сабачку Сасіску на прагулку. "Так мы с вами его прогуляем". І пайшлі мы ўтраіх выгульваць.



**– Міліцыянты разам з вамі выгульвалі Сасіску?**

– Цэлую гадзіну! І ўвесь гэты час я з імі размаўляў. І па дарозе ў Першамайскі РУУС размаўляў. Дыпламатычна так: "Вы маладыя, сімпатычныя, разумныя, мяркуючы па вашых тварах, людзі. Мы да міліцыі ставімся станоўча, ведаем, што вас таксама пасылаюць на разгоны нашых акцый. Дык вы не запэцкайцеся, не зганьбуйце сябе – не біце людзей. Ведайце, што гэту чорную банду забойцаў чакае суд".

**– І вашы суправаджальнікі ўсё гэта слухалі? Вам рота ці сабе вушэй не затыкалі?**

– Слухалі, як мне падалося, з цікавасцю. У РУУСе афіцэры таксама сустрэлі ветліва: "О, сам Іван Іванавіч Грыб! Спадар Ян, мы ж вас ведаем. А ваша сяброўка Ніна Багінская была з вамі на акцыі?" Я і з афіцэрамі пра тое самае паразмаўляў. Праўда, прызнаўся, што стаяў са сцягам, скандзіраваў. Склалі акт, які я не падпісаў. Усё роўна мяне адразу павезлі ў суд Першамайскага раёна. Суддзя **Максім Трусевіч** пачаў нагадваць мне пра мае правы. А не было ні сведак, ні адваката… Дык я спыніў суддзю: "Замаўчыце, калі ласка". Ён здзіўлена глянуў на мяне. Я прадоўжыў: "Мне ваша судовая кухня добра знаёмая. У вас цяпер не суды, а цырк на дроце. Вашы калегі, у каго хапіла розуму і сумлення, сышлі ў адстаўку. А вы сабраліся ў пажылога чалавека, інваліда другой групы, забраць апошнюю капейку, каб уладзе было за што карміць чорную банду забойцаў. У вас, відаць, ужо і прысуд гатовы, таму прашу – рабіце сваю справу без мяне". Суддзя сказаў пачакаць у калідоры. Праз 15 хвілін выйшаў міліцыянт: "Вам 40 базавых".

**– Гэта ажно 1160 рублёў. Колькі вашых пенсій?**

– Трохі болей за дзве. Тыя самыя міліцыянты, што прывезлі, вывелі мяне на вуліцу, я яшчэ з імі пагаварыў. І на развітанне адзін з іх сказаў: "Спадар Ян, мы вельмі рады з вамі пазнаёміцца". А другі, адыходзячы, павярнуўся і нягучна сказаў: "Жыве Беларусь".

**– Вы не жартуеце?**

– Не. Так і сказаў.

**– То хай бы начальнік Першамайскага РУУС падпалкоўнік Андрэй Бакач выпісаў прэміі сваім падначаленым – "за арганізацыю выхаваўчых гутарак з Янам Грыбам".**

– Ну, гэта наўрад ці. Але ж нейкую станоўчую працу я ў той дзень сапраўды зрабіў.

**– Як думаеце штраф выплачваць?**

– Мне гэтымі днямі сыплюцца званкі па тэлефоне ад сяброў, знаёмых і незнаёмых: "Спадар Ян, як вам дапамагчы? Куды пералічыць грошы?" І я ўсім тлумачу, што пералічваць грошы праз банк не трэба. Бо ўлады з любога рахунка іх могуць зняць. У мяне ўжо былі падобныя выпадкі, нават да рахунка дачкі дабраліся. Таму абыдземся без банкаў. Але я спачатку падам апеляцыю, каб пацягнуць час.

**– А як ставяцца вашы хатнія да гэтых прысудаў і штрафаў?**

– Мае хатнія – дзве дачкі, два зяці, дзве ўнучкі і сабачка Сасіска – мае аднадумцы, яны ва ўсім мяне падтрымліваюць. У нас дома жалезнае правіла – размаўляем толькі на роднай беларускай мове. Калі да нас прыходзяць перапісчыкі ці яшчэ хто і з парога прадстаўляюцца: "Здравствуйте, мы такие-то", – то дочкі і ўнучкі перапыняюць: "Мы не карыстаемся рускай мовай, навучыцеся размаўляць па-беларуску, тады прыходзьце, да пабачэння". Вось такая ў мяне сям'я.

**– А колькі разоў вас увогуле затрымлівалі?**

– Ой, многа, нават цяжка падлічыць. У мяне паперак з судоў – цэлы поліэтыленавы пакет. Я іх захоўваю, каб у новай Беларусі прад'явіць справядліваму суду, які будзе судзіць тых, хто нас штрафаваў і за краты адпраўляў.

**– Скажыце, спадар Ян, а сілавікі да вас заўсёды з такой павагай ставяцца?**

– Рознае бывала, асабліва раней. А цяпер сапраўды неяк падабрэлі. Вось нядаўна ў нас у Курасоўшчыне праходзіла чарговая раённая акцыя. Чалавек 200 сабралася, ішлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Пад'ехалі бусікі з двух бакоў, падскочылі "чарнамордыя" да мяне і адразу: "А почему у вас маска такая?" (Бел-чырвона-белая). Я кажу: "Хлопцы, я ж вам не прад'яўляю прэтэнзій, што ў вас чорныя маскі, хоць яны мне не падабаюцца". Ну, яны мяне пад рукі і валакуць у аўтазак. Але афіцэр, мусіць, мяне пазнаў, загадаў: "Этого деда отпустить". А дзвюх бабулек (адна была з сабачкам) на маіх вачах забралі... Размаўляць можна з афіцэрамі, а многія іхнія падначаленыя – нягоднікі замбіраваныя, яны і двух слоў звязаць не могуць.

**– І не з усімі афіцэрамі надта пагаворыш. Помніце, як палкоўнік Карпянкоў асабіста па дварах за пратэстоўцамі бегаў?**

– Мне, відаць, шанцуе на "вменяемых". Вось і 31 снежня пашанцавала – мы, чалавек 500 пенсіянераў, каля елкі на плошчы Незалежнасці сабраліся. І тут прыехала цэлая калона аўтобусаў з сілавікамі. Я ім казаў: "Хлопцы, як вам не сорамна – на 500 пажылых людзей 1500 амапаўцаў?!" А яны ланцугом ачапілі ўсю плошчу і пачалі цясніць нас да аўтобусаў. І мы – бабулькі з дзядулькамі – сталі ў сшчэпку. Нас расцягвалі па адным, а мы, як маглі, упіраліся. Я з адным камандзірам тады сур'ёзна пагаварыў: "Вы ж афіцэр! Вы ж разумны чалавек!" (Я б'ю на тое, што яны разумныя, ім гэта падабаецца.) Кажу: "Я прыйшоў не так на акцыю, як у Чырвоны касцёл, каб памаліцца за вашы душы, каб вы сталі людзьмі!" Ён слухаў-слухаў і ўзяў мяне пад руку: "Давайце я вас правяду ў касцёл". Я хацеў яшчэ старшыню незалежнага прафсаюза пенсіянераў "Наша пакаленне" Таццяну Зялко з сабой прыхапіць, але яе ад мяне адарвалі і павезлі ў пастарунак. Там на ўсіх затрыманых склалі пратаколы, а потым аштрафавалі.

**– Вы не першы год выходзіце на акцыі пратэсту, так бы мовіць, хадок з вялікім стажам. Сілавікі два-тры гады таму і сённяшнія вельмі адрозніваюцца?**

– Раней у іх паводзінах не было такой лютасці. У цяперашніх, часам здаецца, ужо нічога чалавечага за душой не засталося. У іх вочы проста страшна глядзець – там абсалютная пустата… У іх на ўсё адзін адказ: "У нас загад". Я ім стараюся ўталкаваць, што ў Нюрнбергу такі адказ нікога са злачынцаў не выратаваў. Так і іх не выратуе.

**– Пасля летніх і восеньскіх масавых маршаў пратэстны градус відавочна знізіўся. Які сэнс вам бачыцца ў лакальных нешматлікіх акцыях у сталічных раёнах? Скажам, у вашай Курасоўшчыне.**

– Тут такая справа. Неяк я бачыў у адным фільме пра беларускіх партызан, як іхні камандзір выступаў у лесе і гаварыў: "Ні спаць, ні дыхаць, ні жыць мы акупантам не дамо!" Вось так і мы павінны не даваць спакою гэтаму антыбеларускаму рэжыму. І раённыя ці дваровыя акцыі якраз той спосаб. Каб чорная банда зразумела, што пратэсты народа не заціхнуць. А вясною, дасць Бог, набяруць новую сілу! Мы ў Курасоўшчыне амаль кожны дзень выходзім. І ў другіх раёнах таксама не сядзяць па хатах. Няхай нас няшмат, але мы – паўсюль. Гэта якраз у характары беларусаў. Наш пратэстны настрой ні ў якім разе не задушаны. Ён спее і ў патрэбны час, як магма з вулкана, выльецца і змяце гэты рэжым.

**– Вы па прафесіі радыёфізік-электроншчык. Адкуль у вас зацікаўленне беларускай гісторыяй, мовай, хто вас зрабіў такім зацятым беларускім патрыётам?**

– Я чалавек яшчэ даваенны, нарадзіўся ў 1936 годзе на Піншчыне (цяпер Ганцавіцкі раён). А Палессе заўсёды жыло сваім розумам, у палешукоў свой палескі менталітэт. Скажам, палескія партызаны змагаліся і супраць немцаў, і супраць бальшавікоў. І змаганне тое доўжылася ажно да 1954 года. Гісторыі з таго часу я чуў, калі быў яшчэ шмандэлкам (так у нас называлі хлопчыкаў-падлеткаў). Помню, маці расказвала, як два атрады НКВД прыехалі дадушваць партызанскі рух. Забайкальскія стралкі вузкавокія занялі некалькі вёсак. Забілі чатырох хлопцаў і паўголых вазілі па наваколлі – для апазнання і застрашвання. Народ глядзеў пахмурна. А праз некалькі дзён палешукі з дапамогай украінцаў абкружылі тыя вёскі – і ніводзін энкавэдэшнік жывым не ўцёк, усіх паклалі. Пра гэта я ў паэме "На сваёй зямлі напісаў". Вось адкуль мой характар, мая пазіцыя, маё непрыманне ўсяго антыбеларускага.

**– БТ ледзь не кожны дзень анансуе гэтак званы ўсебеларускі сход з няўцямным парадкам дня. Як вы лічыце, для чаго Лукашэнка той хурал збірае?**

– Гэта працяг цырка на дроце – сабраць з усёй Беларусі начальнічкаў і намеснічкаў начальнічкаў і назваць тую зборню ўсенародным сходам. Там, як на колішніх партыйных з'ездах, усе прагаласуюць аднагалосна, усе выкажуць сваё лакейскае "одобрямс". Там загадзя вызначаць выступоўцаў, падкажуць ім тэмы і пытанні, якія можна будзе задаваць. Але галоўнае ў тым, каб увесь хурал хорам праспяваў асанну: "Які мудры ў нас Лукашэнка!"

**– На сваім лецішчы пад Дзяржынскам вы ладзіце розныя імпрэзы, адзначаеце гістарычныя даты. Туды сілавікі пакуль не дабраліся?**

– Хай паспрабуюць знайсці – там жа лес кругом. А пачыналіся тыя імпрэзы як пашыраныя пасяджэнні рады ТБМ Кастрычніцкага раёна Мінска, якую я доўгі час узначальваю. Рада, дарэчы, носіць імя генерала Тадэвуша Касцюшкі – дзеля патрыятычнай ваяўнічасці. У мяне "на маёнтку" ў лесе ўсім месца хапае. Мы збіраемся спакойна, бо ведаем: там нас ніякі АМАП не знойдзе. Хіба з верталётаў… Улетку мы запрашаем на сустрэчы вядомых гісторыкаў, пісьменнікаў, спевакоў. Слухачоў, бывала, да 150 чалавек прыязджала. Адна з апошніх імпрэз – прэзентацыя кнігі народнай артысткі Зінаіды Бандарэнка "Мой шлях да Беларусі". У Мінску не ўдалося сабрацца – каранавірус. А ў мяне ў лесе з сацыяльнай дыстанцыяй праблем няма. Спадарыня Зінаіда – надзвычай прыемны чалавек, калі я чую яе голас, у мяне душа мякчэе.

**– Я той "Шлях да Беларусі" якраз нядаўна прачытаў і ўсім рэкамендую. Зінаіда Бандарэнка таленавіта расказала гісторыю свайго неардынарнага жыцця. Запомнілася, як трапна на старонках кнігі схарактарызаваў аўтарку ў сваім вершаваным экспромце Анатоль Вярцінскі: *"Што кажа Каран пра лёс жаночы? / А тут на ўвесь экран / – Зініны вочы. / Экран блакітны, / вочы сінія. / Голас Зінін. / Усмешка Зініна. / Фальшу ні грана. / Выраз бясцэнны. / Пані экрана. / Княгіня сцэны"*. На прэзентацыі кнігі, помніцца, хтосьці прапаноўваў вам разам са спадарыняй Зінаідай стварыць партыю пенсіянераў. Вы пра гэта не думалі?**

– Па-першае, хто ж, тую партыю, дазволіць зарэгістраваць? Вунь незалежны прафсаюз пенсіянераў згаданая Таццяна Зялко дванаццаць гадоў спрабавала ўзаконіць. Дванаццаць! І нарэшце зарэгістравала. У Варшаве. Па-другое, як бы я ні харахорыўся, а 85-ы год дае пра сябе знаць. Тры гады таму я перанёс інфаркт, мне паставілі электракардыястымулятар.

**– Вы пасля інфаркту і са стымулятарам у грудзях ходзіце на ўсе пратэстныя маршы і акцыі?**

– І буду хадзіць! Пакуль беларускі народ не дамогжацца канчатковай перамогі над гэтым антыбеларускім рэжымам, які заплямiў сябе крывёю ахвяр. Пакуль Бог дае мне сілы, буду выходзіць!

**Міхась СКОБЛА.**

ПАЛІТКУХНЯ



## Уладзімір КОЛАС:

# «Ініцыятыва зараз на баку новага пакалення…»

*Пасля выбараў палітычнае жыццё віравала на поўную моц, а вось пра Раду беларускай інтэлігенцыі было мала чуваць. Што здарылася?*

*З гэтым пытаннем "Народная Воля" звярнулася да старшыні гэтай грамадскай арганізацыі.*

– Я не быў бы такі катэгарычны і не казаў бы, што апошнім часам мы зусім сышлі ў падполле, – кажа **Уладзімір КОЛАС**. – Адразу пасля выбараў, калі яшчэ не было Каардынацыйнай рады, мы сабралі "круглы стол", у якім бралі ўдзел прадстаўнікі каля 50 няўрадавых арганізацый. Выдалі зварот у сувязі з тымі падзеямі, што адбываліся ў краіне, пазней паспрабавалі выйсці на сувязь з Каардынацыйнай радай.

Але актыўнага жадання ў Каардынацыйнай рады супрацоўнічаць з намі не было, а калі нейкі сябра вышэйзгаданай структуры і спрабаваў з намі распачаць дыялог, то яго альбо арыштоўвалі, альбо чалавек вымушаны быў з'ехаць за мяжу, як той жа Павел Латушка. Думаю, што ўсё гэта, безумоўна, супадзенні, збег абставін. Хаця мы былі гатовы дапамагаць і працаваць разам. Але, паколькі запытаў на супрацоўніцтва не ўбачылі, то і не спрабавалі перахапіць ініцыятыву, якой валодае Каардынацыйная рада.

А сваю пазіцыю мы выказалі ў звароце, які быў прыняты пасля выбараў. Згодны, што ўвагі да яго было не вельмі шмат, але што рабіць? Ёсць сёння каму браць на сябе ініцыятыву і звяртаць на сябе ўвагу. І дзякуй Богу!

**– А якія слушныя ідэі вы маглі б прапанаваць Каардынацыйнай радзе?**

– Цяжка нешта параіць у такой складанай сітуацыі, а яна і насамрэч няпростая. Мы ж бачым, якая рэакцыя ўлад на любыя праявы ініцыятывы і пазіцый. У краіне адбываецца самы сапраўдны тэрор і паляванне на іншадумства!

І я бачу, што народныя пратэсты – гэта феномен, які адбыўся. Слушная і рэакцыя міжнароднай супольнасці на падзеі ў Беларусі.

Але ў той жа час, як мне падаецца, існуе небяспека, што на хвалі народнай ініцыятывы яе могуць узяць у свае рукі нядобрасумленныя людзі. З гэтым у сваёй гісторыі мы ўжо сутыкаліся.

**– Што вы маеце на ўвазе?**

– Калі дэмакратычнымі механізмамі скарыстаюцца папулісты і паліттэхнолагі, яны могуць зрабіць беларускаму народу новы "падарунак". Вось гэтага нельга дапусціць, таму трэба, каб людзі заставаліся пільнымі, свядомымі і актыўнымі.

**– Да выбараў улады казалі спачатку пра расійскіх "лялькаводаў", затым пра заходніх, якія быццам бы кіруюць падзеямі ў Беларусі…**

– Калі і казаць пра спробу "лялькаводзіць", то асабіста для мяне відавочна, дзе знаходзяцца рэжысёры – у Маскве. Увесь наш досвед стасункаў з заходнімі партнёрамі паказвае, што там проста ёсць жаданне, каб краіна жыла, карыстаючыся дэмакратычнымі механізмамі, каб Беларусь рабілася цывілізаванай краінай, дзе ўсё празрыста і дэмакратычна.

А што тычыцца Расіі, то там тыя самыя праблемы, што і ў Беларусі, той самы агрэсіўны папулізм ва ўладзе, прапаганда, з дапамогай якой людзей ачмураюць. Гэта нашы агульныя праблемы, і калі мы іх вырашым, то і з Расіяй у нас будуць выдатныя стасункі. Там таксама шмат нармальных людзей, якія падтрымліваюць светлы бок у Беларусі.

**– Чым Рада беларускай інтэлігенцыі займалася апошнім часам, калі ў краіне віравалі такія палітычныя падзеі?**

– Шчыра кажучы, мы дзейнічалі не вельмі актыўна, але на гэта ёсць яшчэ і аб'ектыўныя прычыны. Я маю пэўныя праблемы са здароўем, і рада ўжо не тая. За апошні час мы згубілі шмат знакавых постацяў, і ўсё гэта, безумоўна, адбіваецца на працы.

Зараз мы збіраемся, абмяркоўваем сітуацыю ў краіне, гатовы, як ужо казаў, даваць нейкія парады, калі будзе такая неабходнасць. Але, паўтаруся, ініцыятыва зараз на баку новага пакалення, таму няхай у іх усё атрымаецца.

У той жа час варта адзначыць: у тым, пад якімі харугвамі зараз адбываецца рух да будучыні, таксама ёсць заслуга і Рады беларускай інтэлігенцыі, і "коласаўскага" ліцэя, і ГА "Таварыства беларускай мовы". І гэта вельмі цешыць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РАЗВІТАННЕ

# Бывай, Уладзіміравіч…

***Пасля цяжкай хваробы 4 студзеня памёр пісьменнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, шматгадовы сябра Партыі БНФ і Руху БНФ "Адраджэнне" Фелікс Уладзіміравіч ШКІРМАНКОЎ.***



Фелікс Шкірманкоў нарадзіўся 27 мая 1926 года ў Прапойску, сённяшнім Слаўгарадзе. Ён вэтэран вайны, даўні сябра Партыі БНФ і ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны". У 2005 годзе быў найстарэйшым дэлегатам Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі.

Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў з ліпеня 1941 года актыўна ўдзельнічаў у партызанскім руху. У лістападзе 1943 года быў цяжка паранены. Пасля закачэння ваенна-інжынернага вучылішча ў званні малодшага лейтэнанта трапіў на 4-ы Украінскі фронт камандзірам сапёрнага ўзвода. Вайну скончыў пад Прагай. Быў чатыры разы паранены. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Айчыннай вайны першай ступені, медалямі "За адвагу", "Партызану Айчыннай вайны" першай ступені, "За Перамогу над Германіяй".

Пасля вайны служыў у органах дзяржбяспекі, працаваў у геолагаразведцы на Далёкім Усходзе, быў старшынёй Слаўгарадскага Савета дэпутатаў.

Фелікс Шкірманкоў выдаў шмат кніг розных літаратурных жанраў. Сярод яго твораў – успаміны, замалёўкі, абразкі, "ваенныя" і "геалагічныя" апавяданні, паэтычная кніга на рускай мове, кнігі вершаў, напісаных па-беларуску. Ён з'яўляўся сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

***

Рэдакцыйны калектыў газеты "Народная Воля" смуткуе з нагоды смерці Фелікса Уладзіміравіча Шкірманкова і выказвае шчырае спачуванне яго родным.

